ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 65(5247)
Аўторак, 12 чэрвеня 2001 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

8 чэрвеня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка наведаў будаўнічую пляцоўку сярэдняй школы, будаўніцтва якой распачата ў мікрараёне № 6 Маладзечна.
НА ЗДЫМКУ: падчас наведвання будаўнічай пляцоўкі будучай школы.
**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛТА.**

## Дзе нараджалася перамога

***Ужо некалькі тысяч чалавек наведалі адкрытую не так даўно ў музеі мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой" дзявятую залу — залу Перамогі.***

Цэнтральнае месца ў экспазіцыі займае Сцяг Перамогі, узняты над купалам Рэйхстага ў маі 1945-га. Расказвае экспазіцыя і пра воінаў, якія вызвалялі Беларусь і Еўропу ад фашыстаў.

Паводле слоў дырэктара мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой" генерал-маёра ў адстаўцы Валерыя Губарэнкі, які выступіў з ідэяй адкрыцця залы Перамогі, паўгода пайшло на абсталяванне экспазіцыі. Стваралі яе за свой кошт пры дапамозе Мінскага мастацкага камбіната.

Тым не менш створаныя новыя экспазіцыі прыцягваюць увагу наведвальнікаў, расказваючы пра мужнасць і салдацкую доблесць. Так, калі ў 1992 годзе крэпасць наведалі 50 тысяч чалавек, то ў мінулым годзе — 130 тысяч. Акрамя гасцей з Беларусі і краін блізкага замежжа наведваюцца ў мемарыяльны комплекс і дэлегацыі з Германіі, ЗША, Кітая, В'етнама...

**Святлана МАКАРАВА.**

### Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Свет дзяцей у сваім сэрцы

Ніколі не трэба баяцца апазіцыі сваёй думцы, асабліва калі яна канструктыўная. Не трэба баяцца іншых меркаванняў! Памятаеце словы Ж.Пеці-Сана: "Няма нічога сумнейшага за людзей, якія заўсёды пагаджаюцца з вамі — гэта тое ж самае, што размаўляць з рэхам".

Галоўным у дзейнасці школы і кожнага педагога павінна быць творчасць і толькі творчасць.

Мне, напрыклад, здаецца дзіўным, што педагог-эксперыментатар падчас застаецца "невядомым" у сваёй роднай школе і ніякім чынам ёю не заахвочваецца.

У дзейнасці педагога-творцы заўсёды ёсць элемент эмацыянальнай "афарбоўкі", свайго асабістага бачання праблемы. І аўтаматычна ён не ўспрымае нават вядомыя, правераныя часам і практыкай захады і метады работы настаўнікаў-наватараў. Ён хоча бачыць сябе ў свеце дзяцінства, адчуваць свет дзяцей у сваім сэрцы, сваіх пачуццях і думках. Перад ім штодзённа павінны свяціцца азораныя ўсмешкай вочы яго дзяцей, яго вучняў. І ў гэтым сэнсе дзейнасць творчага педагога заўсёды альтэрнатыўная — яна кантрасціруе часам з пазіцыяй адміністрацыі, большасці калег (пры ўсёй добрасумленнасці, працаздольнасці, уменні выкарыстоўваць назапашаны педагагічны вопыт апошніх) і нават большасці настаўнікаў рэгіёна. Можна сказаць, што настаўнік-творца — "не ад свету гэтага". І ўсё ж такі ён прагматычны, заземлены на рэальных патрэбнасцях школы, грамадства ўвогуле. Творчы педагог у вядомай ступені з'яўляецца рабочай, канструктыўнай апазіцыяй кансерватызму, коснасці, руціннасці, паўсядзённай шаблоннасці, стэрэатыпу мыслення, які ўжо надакучыў.

Творчая дзейнасць мае сваёй перадумовай актыўнае ўцягненне ў гэты працэс і настаўніка, і вучня. Для настаўніка няма і не можа быць універсальных методык. Сучасныя інавацыйныя педтэхналогіі даюць магчымасць настаўніку вар'іраваць захады і метады навучання, уносіць у іх кожны раз элемент навізны, па-свойму інтэрпрэтаваць ужо вядомае ці выкарыстоўваць свае знаходкі ў сумеснай з вучнямі дзейнасці. І часта бывае так, што методыка тым лепшая, чым больш яна церпіць крытыку.

Мне здаецца, што залатым правілам для творчага педкалектыву (а лепш — для ўсіх школ) павінны стаць штогадовыя канферэнцыі, кірмашы новых ідэй, народжаных педагагічнай практыкай, творчыя справаздачы асобных настаўнікаў. Лепш, калі адміністратары пачнуць з сябе па правілу: "Рабі як я!". І яшчэ: добра было б, каб побач з творчымі справаздачамі настаўнікаў знаходзіліся прадметы творчасці іх гадаванцаў-вучняў. А гэта "доля" не толькі элітных гімназій, ліцэяў, але і самых звычайных школ.

Калі ў стаўленні настаўніка да дзіцяці мы ставім задачу "Не нашкодзь!", то самому настаўніку трэба паставіць хаця б сціплую задачу перад адміністрацыяй: "Не перашкаджай"! Часам адсутнасць перашкод, непатрэбнай апекі — лепшая дапамога для творчага, натхнёнага настаўніка. І яшчэ: настаўніку трэба давяраць! Давер акрыляе, натхняе, недавер абразае крылы ў асобы, творчасці! Недавер сацыяльна небяспечны. Ён убівае клін паміж людзьмі. І наадварот: давер творыць цуд. Як добра было б пачуць настаўніку: "Я Вам вельмі давяраю...".

Важным фактарам педагагічнай творчасці павінна стаць пастаянная, мэтанакіраваная, сістэмная работа з адоранымі дзецьмі. Яны — залаты фонд нашага народа, яго будучыня. Такіх адораных, таленавітых дзяцей таксама трэба заахвочваць. Гэта робіць Прэзідэнт краіны, гэта трэба рабіць у кожнай школе.

Хочацца пажадаць Міністэрству адукацыі сумесна з галіновым прафсаюзам распрацаваць новыя крытэрыі ацэнкі дзейнасці школ, педагогаў з пазіцыі прыярытэтнасці творчасці. Трэба маральна і матэрыяльна заахвочваць настаўніка, і ў першую чаргу — за творчасць. Настаўнік жа — знакавая фігура нашага грамадства.

**Міхаіл КАН,**
**настаўнік вышэйшай катэгорыі Красненскай сярэдняй школы Гомельскага раёна.**

## За падлетка замовіць бы слова...

Адцвілі сады, чакаем, калі закаласіцца жыта, а сейбіты асветніцкай нівы рыхтуюцца да ўборачнай — наперадзе настаўніцкі з'езд. Пра яго набліжэнне — размовы ў школьных калектывах, на старонках нашай "Настаўніцкай". Шмат пытанняў, ёсць праблемы... Уздоўж і папярок прабаранавана ніва народнай асветы, бо глеба была падрыхтавана, і ўжо далі ўсходы тыя зерні навацый, што адбіраліся руплівцамі, што мацавалі шлях для далейшага развіцця школы. І высновы відавочныя: яны ў імкненні вучняў да ведаў, у імкненні пайсці вучыцца ў вышэйшыя і спецыяльныя ўстановы. І гэта не выпадкова: вырас усебакова наш настаўнік, сейбіт разумнага, добрага, творца асобаснага выхавання вучня.

І тым не менш мне (я аддаў паўвека працы школе) хочацца звярнуць увагу на праблему, якая хвалюе школу, сям'ю, грамадскасць — праблему падлетка.

Усе мы прайшлі праз гэты ўзрост, калі адчувалі прыліў энергіі, прагу да актыўнага жыцця, імкнуліся да спрадвечнай мары — хутчэй стаць дарослым. Марыць пра гэта і наш сучасны падлетак — даўгавязы і цыбаты інтэлектуал. Яго пачуцці і духоўны свет перапоўнены тым, што ён бачыць па-за межамі школы і падручніка. У яго, нярэдка адзінага ў сям'і, іншыя спосабы выхавання, мэта якіх — каб "лягчэй у жыцці ды лепей". Бацька, маці, дзяды і бабулі песцяць яго ў купелі любві, клопатах, выконваюць усе пажаданні, да чаго ён вельмі хутка прывыкае. А тут яшчэ яму, часта бездапаможнаму (бо жыве без "практычнай дзейнасці) штодзённыя "баевікі" ды "дэтэктывы" прапануюцца.

Паспрабуй устаяць! І бацькі-выхавацелі толькі разводзяць бездапаможна рукамі, але знаходзяць трэцяга — настаўніка. Цяжкі падлетак — гэта дзіця такога выхавання...

Мы гаворым пра садружнасць сям'і і школы — яна ёсць, але недастатковая — таму што абмяжоўваецца ў большай меры толькі словамі, а не практычнымі дзеяннямі. Дзе той бацька, што сумесна з сынам задумалі і робяць штосьці практычнае, карыснае? Хіба што дача, але многія падлеткі нават не ведаюць, дзе яна і ведаць не жадаюць. Застаецца слова за школай і настаўнікам! Радуе, што мы ў апошнія гады зноў звярнуліся да тых часоў працоўнага навучання, калі арганізоўваліся летнікі працы і адпачынку, калі на школьных тэрыторыях зноў заззелянелі вучэбна-даследчыя ўчасткі, дзе падлетак мае магчымасць хоць крыху навучыцца практычнай справе, прыблізіцца да прыроды, адчуць, што яна не храм, а майстэрня. І чалавек у ёй — працаўнік.

Вырашэнне праблемы працоўнага навучання ў школе можна знайсці, але часта ў майстэрнях не хапае матэрыялу, а ў настаўніка, прабачце, — жадання вучня навучыць, бо малы заробак...

Напрыканцы хочацца падкрэсліць адну думку аб нашых "нівах" — ніве калгасных палёў і ніве народнай асветы. Сальюцца яны — вырашацца многія праблемы выхавання, у тым ліку і выхавання "цяжкага" падлетка. Шляхоў многа. А мэта адна — дастойны сын сям'і і дастойны грамадзянін краіны.

**Уладзімір КАРАЛЬКОЎ,**
**ветэран вайны і працы, выдатнік асветы БССР, СССР.**

## Навіны

### Ідуць выпускныя экзамены

***У школах краіны ідуць выпускныя экзамены. Прапануем вашай увазе некалькі бліц-інтэрв'ю нашага карэспандэнта, якія ўзяты па тэлефоне.***

**Ніна Міхайлаўна Гушаль, дырэктар сярэдняй школы № 10 Гомеля:**

— У нас цяпер напружаны і адказны час. Працы многа, але мы — і вучні, і настаўнікі — да яе рыхтаваліся. І настаўнікі, і бацькі, і школьныя службы — псіхолагі і бібліятэкары. Да экзаменаў вучняў патрэбна падрыхтаваць яшчэ і псіхалагічна. Трэба навучыць іх, як наладзіць рэжым дня ў час экзаменаў, як харчавацца. Псіхалагічны настрой вучня ўплывае, як правіла, на выніка экзаменаў. Вось сёння, 11 чэрвеня, напрыклад, дзевяцікласнікі пісалі дыктоўку. З экзаменам, малайцы, справіліся паспяхова. У асноўным адзнакі добрыя і выдатныя. Нас вельмі радуе, што вучні пацвярджаюць свае веды на экзаменах. Наша школа вялікая, перагружаная, працуем у дзве змены (у школе навучаецца 1395 чалавек). Шэсць дзявятых класаў, вучні якіх сёння здаюць экзамены за базавы курс, і чатыры — адзінаццатыя класы.

Сярод выпускнікоў дзевятнаццаць чалавек прэтэндуюць на залатыя і сярэбраныя медалі. Як дырэктар школы (я — матэматык па спецыяльнасці) па меры магчымасці імкнуся прысутнічаць на кожным экзамене. Гэта такая асалода — бачыць, як вучні дэманструюць перад строгай экзаменацыйнай камісіяй бліскучыя веды. Напрыклад, надзвычай цікава прайшоў у нас экзамен па сусветнай мастацкай культуры, дзе кожнаму выпускніку неабходна было прадэманстраваць, на што ён здатны, сыграць на музычным інструменце, абараніць сваю творчую навуковую работу па абранай тэме. Гэта было падобна на ўступныя экзамены ў тэатральную ўстанову!

Бліскучыя веды выпускнікі дэманструюць таксама па замежнай мове: мы спецыялізаваная школа. Нашы вучні паглыблена вывучаюць англійскую мову. Добрыя і выдатныя адзнакі нашы выпускнікі атрымалі на экзаменах па беларускай літаратуры і матэматыцы. Іх веды мы ўспрымаем як узнагароду за працу настаўнікаў нашай школы.

**Станіслава Станіславаўна Бурнос, дырэктар сярэдняй школы № 5 Мастоў:**

— Панядзелак — цяжкі дзень. Вось толькі што члены экзаменацыйнай камісіі праверылі дыктоўку, якую сёння пісалі дзевяцікласнікі. У нашай школе сем дзявятых класаў — гэта 163 чалавекі. Вынікі такія: чацвёркі і пяцёркі, і толькі адна троечка. Вучні пацвярджаюць свае веды, што нас вельмі радуе і задавальняе. А некаторыя выпускнікі значна палепшылі свае адзнакі менавіта на экзаменах. Ужо здадзены экзамен па матэматыцы. Былі прапанаваны няпростыя матэматычныя заданні. Але выпускнікі з імі справіліся паспяхова.

Сярод нашых выпускнікоў дзесяць чалавек прэтэндуюць на залатыя і сярэбраныя медалі, дваццаць — на пасведчанні з адзнакай "выдатна".

Школа наша самая вялікая ў горадзе, у нас навучаецца 1465 чалавек. Але, нягледзячы на перагружанасць, імкнёмся працаваць творча, на рахунку педагагічнага і вучнёўскага калектыву многа добрых выхаваўчых мерапрыемстваў. Штогод нашы настаўнікі прымаюць актыўны ўдзел у гарадскіх і абласных конкурсах прафесійнага майстэрства. А сёлета ў рэспубліканскім конкурсе прымала ўдзел наша настаўніца беларускай мовы і літаратуры Святлана Іванаўна Палубятка.

**Святлана БЕНЬ,**
**наш кар.**

### Спасцігнуць чужы вопыт

***У канцы мінулага тыдня ў Нацыянальным інстытуце адукацыі прайшла VIII Міжнародная канферэнцыя "Сацыяльна-псіхалагічная рэабілітацыя насельніцтва, пацярпелага ад экалагічных і тэхнагенных катастроф". У ёй узялі ўдзел больш ста псіхолагаў.***

Восем гадоў таму, калі канферэнцыя яшчэ толькі пачала набіраць моц, — ужо тады было зразумела, што яна будзе спрыяць развіццю псіхалагічнай службы ў краіне. Па выніках кожнай канферэнцыі прымаліся важныя дакументы — і палітыка ў галіне псіхалогіі Міністэрства адукацыі ў многім будавалася на іх аснове.

Праблемы крызіснай псіхалогіі, якія заўсёды былі ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў канферэнцыі, маюць вельмі шырокі дыяпазон — ад становішча дашкольніка ў сям'і да рэабілітацыі вайскоўца, які браў удзел у баявых дзеяннях. І як паказвае практыка, патрэбна абмяркоўваць не толькі відавочныя праблемы, але і магчымыя. Менавіта таму, што на ўсіх васьмі канферэнцыях па сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі насельніцтва псіхолагі імкнуліся спасцігнуць і чужы вопыт, а не толькі абмяркоўваць свой, яны аказаліся гатовымі прыйсці на дапамогу пацярпелым і ў 1996 годзе, калі тэрарыст захапіў дзіцячы садок, і ў 1999 годзе, калі адбылася страшная трагедыя на Нямізе.

І цяпер канферэнцыя прыняла важны выніковы дакумент, што зноў пацягне за сабой новы погляд на псіхалагічную службу ў краіне. Вельмі важна і тое, што ў дыскусіях і размовах за "круглым сталом" нараджаліся ў псіхолагаў новыя рашэнні і новыя ідэі.

**Галіна СІДАРОВІЧ.**

### Юныя карэспандэнты

***Гурток з такой назвай трэці год дзейнічае пры сярэдняй школе № 2 Барысава.***

На працягу гэтага навучальнага года юнкоры пабылі на экскурсіях у рэдакцыях мясцовых газет. Запомнілася экскурсія ў "Новую барысаўскую газету". Ішла зацікаўленая размова з вопытнымі журналістамі, і дзякуючы ёй дзеці нанава для сябе адкрылі гэтую складаную і такую патрэбную прафесію.

Адбылася экскурсія і ў друкарню, дзе юнкоры ўбачылі, як друкуецца газета.

З выдатнымі, цікавымі людзьмі сустракаюцца юнкоры. Штогод праводзіць з намі своеасаблівыя ўрокі мудрасці і паэзіі барысаўская паэтэса А.В.Лапошыч. На чарговым уроку паэзіі Ала Васільеўна расказала пра сваю новую кнігу для дзяцей "Витя-шалунишка". Свае вершы прачытала Вольга Мінчанка. Дзяўчынка хвалявалася, але Ала Васільеўна падбадзёрыла яе, і голас маленькай паэткі загучаў больш упэўнена.

Зацікавіла юнкораў сустрэча з настаўніцай польскай мовы Ірынай Паўлаўнай Сакавец, якая пазнаёміла іх з культурай Польшчы, яе паэтамі, кампазітарамі, вучонымі. Яна падарыла гуртуоўцам карту Польшчы, кнігу пра гэтую краіну і на развітанне ўсіх сфатаграфавала.

На працягу года юнкоры выпускалі сваю насценную газету "Голас юнага карэспандэнта".

Дзеці пазналі асновы журналістыкі, навучыліся пісаць рэпартаж, нарыс, апавяданне, фельетон, гумарэску. Юнкоры вучыліся працаваць, любіць сваю справу, спасцігаць азы сваёй будучай, далёка не самай лёгкай прафесіі. Усе цікавыя людзі, з якімі яны сустракаліся, неслі ім новыя веды і зарад станоўчай энергіі. Думаю, што ўся гэтая работа не была дарэмнай, у глыбіні душы кожнага засталіся добрая памяць і агеньчык надзеі.

...І вось апошнія заняткі, падводзім вынікі. Самым актыўным — Вользе Мінчанка, Яне Буйко, Аліне Вашкевіч — уручаны пахвальныя граматы.

**Святлана СМОЛЬСКАЯ,**
**кіраўнік гуртка юных карэспандэнтаў.**
Барысаў.

### "Севастопальскі вальс" аб'ядноўвае моладзь

***У сярэдзіне лета ў Севастопалі ўпершыню пройдзе Міжнародны фестываль "Севастопальскі вальс-2001".***

Разам з танцавальнымі калектывамі з Украіны, Расіі, Грузіі, Малдовы, іншых дзяржаў да ўдзелу ў фестывалі запрошаны таксама прадстаўнікі Беларускай федэрацыі танцавальнага спорту.

Праграмай фестывалю прадугледжана правядзенне індывідуальных і камандных конкурсных паказаў, у якіх сваё майстэрства прадэманструюць танцоры розных узроставых катэгорый (ад 7 да 25 гадоў). Гледачоў чакаюць гала-канцэрты з удзелам такіх вядомых творчых калектываў як Севастопальскі тэатр танца, Ансамбль песні і танца Чарнаморскага флоту Расійскай Федэрацыі, Ансамбль песні і танца ваенна-марскіх сіл Украіны.

Для правядзення фестывалю "Севастопальскі вальс-2001" рыхтуецца спецыяльная сцэнічная пляцоўка пад адкрытым небам, якая будзе размяшчацца на тэрыторыі гісторыка-архітэктурнага комплексу севастопальскай Графскай прыстані. Адна з асноўных мэтаў гэтага мерапрыемства — умацаванне дружбы паміж маладымі людзьмі розных краін. А пераможцы і лаўрэаты фестывалю будуць узнагароджаны спецыяльнымі дыпломамі і прызамі.

Дарэчы, "Севастопальскі вальс-2001" плануецца праводзіць штогод у ліпені.

**Святлана МАКАРАВА.**

### У Халопеніцкім дзіцячым доме

#### Ім тут весела і ўтульна

Цікава і весела жывуць выхаванцы Халопеніцкага дзіцячага дома. Толькі за два месяцы для дзятвы было праведзена больш як 10 выхаваўчых мерапрыемстваў, сярод якіх — вечар адпачынку, КВЗ, конкурс-агляд "Самы ўтульны пакой", тыдзень прававых ведаў, "Дарожныя знакі — нашы сябры", конкурсная праграма "Ало, мы шукаем таленты", выстава творчасці "Дзіцячыя фантазіі", літаратурна-музычная гасціная "Каханне з першага погляду", тэатралізаванае відовішча "Вясёлы кірмаш" і г.д. Вучнёўскі савет і намеснік дырэктара па выхаванні Аляксандра Аляксееўна Глінік робяць усё для таго, каб дзеці-сіроты хутчэй адаптоўваліся і прывыкалі да жыцця ў інтэрнацкай установе.

#### Захапляюць сваім майстэрствам

Аляксей Ліпніцкі, Аляксандр Жаваранак, Аляксей Красневіч — лепшыя танцоры, спевакі і спартсмены дзіцячага дома. У школьных конкурсах, раённых аглядах мастацкай самадзейнасці, абласным фестывалі "Вясёлкавы карагод" юнакі захапляюць аўдыторыю сваім выканаўчым майстэрствам. "Пасля дзевяці класаў мы збіраемся ісці ў ПТВ № 62 будаўнікоў Барысава, бо ў гэтым ПТВ вучаць не толькі будучых будаўнікоў, але там выдатна арганізавана мастацкая самадзейнасць.

#### На трох узроўнях

Метадычная работа ў дзіцячым доме ажыццяўляецца на трох узроўнях: I — для маладых педагогаў — "Давайце параімся" (кіраўнік А.А.Глінік), II узровень — метадычнае аб'яднанне настаўнікаў пачатковых класаў (Д.П.Казлоў), і выхавальнікаў (А.А.Глінік); III — творчая група, дыскусійны клуб (Д.П.Казлоў). Якасна працуюць у клубе "Давайце параімся" Т.М.Тарасенка (выхавацель), В.А.Цюрмаста, Л.А.Канашэвіч (кіраўнік клуба "Васілінка"). А ў творчай групе шчыруюць педагогі Валянціна Іванаўна Касцевіч (матэматык), Людміла Іванаўна Алешка (бібліятэкар), Мікалай Мікалаевіч Рубан (пачатковыя класы), Валерый Міхайлавіч Кляшчонак (географ), Лілія Леанідаўна Шаціла (фізічнае выхаванне), Алена Генадзьеўна Кляшчонак (пачатковыя класы).

#### Дзеці называюць мілай матуляй

Галіна Васільеўна Скалабан — адна са старэйшых супрацоўніц дзіцячага дома. "Вопытны настаўнік пачатковых класаў, чалавек, улюбёны ў школу, дабрадзей усіх дзяцей", — так гаворыць пра Скалабан намеснік дырэктара школы Антаніна Аляксандраўна Глінік. Педагогіка супрацоўніцтва, методыкі Аманашвілі, Сторажавай, Зайцава, Лысянковай — усё гэта "прысутнічае" на кожным уроку Галіны Васільеўны. Вучні называюць сваю настаўніцу мілай матуляй. Скалабан — той чалавек, які сапраўды сее разумнае, добрае, вечнае...

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ.**

### Падрабязнасці для "НГ"

## "Тут мае карані"...

***Так сказаў на сустрэчы са студэнтамі Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта Мішэль Каплан, прэзідэнт універсітэта Парыж-1 — Пантэон — Сарбона.***

Шэсць гадоў цеснага супрацоўніцтва звязваюць БДЭУ з прэстыжнай еўрапейскай навучальнай установай — Сарбонскім універсітэтам, гісторыя якога вядзе адлік яшчэ з XIII стагоддзя. Для студэнтаў БДЭУ сёння ўжо не праблема атрымаць дыплом універсітэта, які знаходзіцца ў самым рамантычным горадзе свету — Парыжы. І не абавязкова рэгулярна наведваць яго — дастаткова добра вучыцца ў адным з яго філіялаў — на франкамоўным аддзяленні Інстытута кіравання прадпрыемствамі (Парыж-1 — Сарбона-1), што існуе ў БДЭУ.

У рамках свайго нядаўняга візіту ў Мінск прэзідэнт Сарбонскага універсітэта Мішэль Каплан ахвотна сустракаўся як са студэнтамі, так і з выкладчыкамі БДЭУ. Свой візіт ён тлумачыў не толькі пачуццём абавязку перад партнёрамі, але і цікаўнасцю вучонага, для якога працэс пераходу нашай краіны ад старой эканамічнай мадэлі да новай вельмі пазнавальны.

"У нашым універсітэце выкладаюцца трансфармацыйныя працэсы ў эканоміцы краін Усходняй Еўропы. А міжнароднае супрацоўніцтва і абмен студэнтамі дае нам магчымасць падрыхтаваць спецыялістаў для работы з прадпрыемствамі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Акрамя гэтага мы зацікаўлены ў супрацоўніцтве паміж вучонымі нашых дзвюх краін, якое дазваляе французам зразумець змены, характэрныя сёння для Беларусі", — заўважыў Мішэль Каплан.

На сваіх сустрэчах ён падрабязна расказаў аб Сарбонскім універсітэце — пра яго структуру, асаблівасці навучання, фінансавання. У сценах Парыжскага універсітэта навучаецца 38 тысяч студэнтаў па розных напрамках — эканоміка, права, менеджмент, мастацтва, педагагічныя навукі, гісторыя і г.д. Навучаюць студэнтаў 1100 выкладчыкаў, з іх 250 прафесараў. 12 аддзяленняў універсітэта займаюцца навуковымі даследаваннямі. Навучанне ў Сарбоне вядзецца на вельмі высокім узроўні, што, безумоўна, прыцягвае сюды студэнтаў з усіх кантынентаў.

Супрацоўніцтва звязвае Сарбону больш як са 100 універсітэтамі свету, ад кожнага з якіх яна бярэ, паводле слоў яе прэзідэнта, штосьці новае, цікавае і сама ахвотна дзеліцца сваім вопытам. Кожны факультэт універсітэта — гэта самастойная адзінка, са сваёй спецыфікай і асаблівасцямі, хоць і фінансуецца цэнтралізавана Міністэрствам адукацыі Францыі. Але ёсць у факультэтаў і свае матэрыяльныя рэсурсы, якія яны набываюць самастойна, заключаючы розныя дагаворы з прадпрыемствамі на навуковыя і іншыя даследаванні.

Дарэчы, студэнт універсітэта Сарбоны таксама атрымлівае стыпендыю, узровень якой залежыць ад даходаў бацькоў (мінімальная роўна 10 тысячам франкаў у год). Мінімальная заработная плата ў Францыі роўная 72 тысячам, зарплата прафесара складае дзве "мінімалкі".

Многіх студэнтаў нашай ВНУ цікавіла, ці лёгка стаць студэнтам такога прэстыжнага універсітэта. Для гэтага трэба ўсяго толькі закончыць паспяхова гімназію і набраць патрэбную колькасць балаў пры субяседаванні. Але вучыцца значна складаней. І не толькі з-за платы за навучанне, — яна, дарэчы, невысокая (прыкладна, 200 долараў за курс). Пасля кожнага курса навучання студэнт здае тэсты і экзамены, але не больш чым за два разы. Потым ён за непаспяховасць адлічваецца. Універсітэт не хоча рызыкаваць сваёй рэпутацыяй і прэстыжам, таму патрабуе ад сваіх студэнтаў высокай якасці ведаў. Колькасць слухачоў на першым курсе ніхто не абмяжоўвае, але да пятага курса даходзіць далёка не кожны студэнт. Няма ў дзяржаве і абмежавання на атрыманне той ці іншай спецыяльнасці — цяжка ж прадугледзець, якія прафесіі спатрэбяцца краіне праз чатыры гады. Але сёння французскую моладзь прыцягваюць такія спецыяльнасці як псіхалогія, фізічнае выхаванне і спорт, мастацтва і камунікацыя. Што да праграм навучання, то ў першыя гады французскія студэнты атрымліваюць фундаментальныя веды, а на старэйшых курсах выбіраюць спецыялізацыю.

Трэба заўважыць, што нашы беларускія студэнты, у прыватнасці з БДЭУ, цалкам спраўляюцца з гэтай праграмай навучання і маюць даволі высокі бал паспяховасці ў выкладчыкаў з Францыі. А найбольш упартыя ў спасціжэнні ведаў умудраюцца нават прадоўжыць навучанне ў магістратуры пры Сарбоне. Але для гэтага неабходна наяўнасць матэрыяльных сродкаў. Як вядома, жыццё ў Парыжы лічыцца амаль ці не самым дарагім у свеце.

Нягледзячы на свае беларуска-польскія карані (бабуля яго родам з Гродна, а дзед з Беластока), Мішэль Каплан упершыню прыехаў у Беларусь. Мінск ён ацаніў як даволі еўрапейскі горад. Прэзідэнт Сарбонскага універсітэта наведаў розныя славутасці беларускай сталіцы і яе наваколля. Сваім першым візітам у БДЭУ і Беларусь ён застаўся вельмі задаволены.

**Антаніна ПЯТРОВА.**

## Арганізаваны адпачынак — толькі ў чэрвені

Арганізацыя дзіцячага адпачынку — задача злабадзённая, для працаўнікоў адукацыі не менш важная, чым выпускныя ці ўступныя экзамены.

Паўнацэнны адпачынак вясковых школьнікаў забяспечыць, бадай, цяжэй, чым гарадскіх. Да бабулі ў вёску не адправіш — яна часцей за ўсё побач; пуцёвак у летнік амаль не бывае — хіба адзінкі змогуць раздабыць. Бадзяйся, дзіця, дзе хочаш... Каб трошкі аблегчыць клопаты бацькоў, у Віцебскім раёне "стартавала" першая змена ў школьных дзённых летніках. У іх змогуць правесці першы месяц лета 810 дзяцей самага рознага ўзросту — ад 7 да 16 гадоў. На харчаванне кожнага дзіцяці выдаткоўваецца 979 рублёў у дзень. Прадугледжаны не толькі снеданне і абед, але і выдача вітамінаў. Бацькам прыйдзецца заплаціць за пуцёўку ўсяго 10 працэнтаў (не больш за тры тысячы руб.), а шматдзетныя сем'і, па рашэнні бацькоўскага камітэта, могуць быць вызвалены ад платы наогул. Сабраныя грошы пойдуць на арганізацыю культурнай праграмы.

Акрамя 16 дзённых, будуць адкрыты два кругласутачныя летнікі: адзін — для дзяцей-сірот пры Янавіцкай бальніцы і спартыўны — у Лужаснянскай гімназіі. Але самым цікавым абяцае быць адпачынак у ваенна-спартыўным летніку "Гвардзеец", арганізаваным па традыцыі на базе воінскай часці "Баравуха-1" пад Полацкам.

Не сакрэт, што добра арганізаваны адпачынак дазваляе не толькі палепшыць здароўе дзяцей, але і знізіць дзіцячы траўматызм і злачыннасць. На вялікі жаль, з-за фінансавых цяжкасцяў не ўдаецца забяспечыць адпачынак на ўсё лета. Толькі ў чэрвені і пашчасціць амаль пятай частцы з 5000 школьнікаў раёна, не ўлічваючы выпускнікоў 9 і 11 класаў. Далей адпачынак дзяцей ляжа цалкам на плечы бацькоў.

### Як адпачыць настаўніку

704 настаўнікі Віцебскага раёна збіраюцца сёлета ў адпачынак. Як пройдзе іх вольны час, ці змогуць яны аднавіць свае сілы, у многім будзе залежыць ад своечасовасці выплаты адпускных. Тым, хто працуе на "голую" стаўку і ўтрымлівае на яе сям'ю, падарожжы і курорты не "свецяць". Дай Бог дацягнуць так-сяк да новага навучальнага года і зарабіць яшчэ якую капейку. Дарэчы, і высокакваліфікаваным настаўнікам, што працуюць на паўтары стаўкі, нялёгка будзе адпачыць са смакам, бо грошы абяцаюць выплачваць па меры паступлення ў бюджэт. Перспектыва не з лепшых, але ж і выйсця няма.

Папраўляць здароўе ў санаторыях і дамах адпачынку зможа ў лепшым выпадку дзесятая частка педагогаў. Для раённага аддзела адукацыі па плане прадугледжана шэсць пуцёвак у квартал, але ў мінулым годзе ўдалося аздаравіць 68 чалавек. Мяркуюць і ў гэтым знайсці выйсце. Каля сотні жадаючых звяртаюцца ў прафкам за пуцёўкамі, ды выканаць усе заяўкі немагчыма. За першае паўгоддзе 2001 года "выбілі" 23 санаторныя пуцёўкі, у тым ліку дзве для маці і дзіцяці. Найбольшым попытам карыстаюцца ўстановы, дзе лечаць сардэчна-сасудзістыя захворванні і захворванні апорна-рухальнага апарату. Каб неяк палегчыць выезд працаўнікоў адукацыі на адпачынак, прафсаюзная арганізацыя аказвае дапамогу ў памеры 2 мінімальных зарплат, фонд матэрыяльнага стымулявання пры загадчыку раённага аддзела адукацыі — ад 3 да 5 МЗП — у залежнасці ад аддалегласці да санаторыя. Большасць пуцёвак усё ж паступае мясцовага ці рэспубліканскага маштабу.

**Святлана ЛАВЕЙКІНА.**

### Увага!

**Шаноўныя чытачы! Просім аўтараў допісаў у рэдакцыю паведамляць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас.**

**Гэта неабходна пры налічэнні ганарару для падатковай інспекцыі.**

### *Паважаныя чытачы!*

**Працягваецца падпіска на перыядычныя выданні на другое паўгоддзе 2001 года.**

Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні краіны і ў агенцтвах "Белсаюздруку".

Падпісны кошт для індывідуальных падпісчыкаў на месяц — 635 рублёў, на квартал — 1905 рублёў, на паўгоддзе — 3810 рублёў.

На ведамаснай падпісцы на месяц — 1375 рублёў, на квартал — 4125 рублёў, на паўгоддзе — 8250 рублёў.

Лёсы людскія

# Бязбацькавічы

*Люты сёлета быў шэры. Я падымаўся на ўзгорак, дзе перад вачыма вырастаў будынак, які змахваў на тыповы дзіцячы садок. Будыніна злівалася з шэрым наваколлем.*

*І нейкія сумныя думкі ўмомант апанавалі мяне. А яшчэ гэтая адзінокая піхта, як затушаная свечка, маркотна стаяла на асфальце. Нібы пакрыўджаная лёсам.*

З Уладзімірам Уладзіміравічам Бажком, дырэктарам Лідскага дзіцячага дома, мы правялі, мабыць, паўдня. Ад яго я даведаўся найперш, што 90 працэнтаў яго "кантынгенту" — гэта дзеці, бацькі якіх альбо за кратамі, альбо пазбаўлены законных правоў на выхаванне. П'юць, жывуць як крапіва ў агародзе. А 10 працэнтаў дзяцей маюць адхіленні ў псіхафізічным развіцці.

## Гэтыя сумныя кнігі

З архіва мне прынеслі тоўстыя тамы. Быццам крымінальныя справы. Толькі большага фармату. Гэта кнігі руху выхавальнікаў. Справа ў тым, што пасля вайны дзіцячыя дамы існавалі ў больш буйных населеных пунктах нашай рэспублікі. Бязбацькавічаў хапала.

Вось я трымаю ў руках кнігу руху дзіцячага дома ў Карлаўшчызне (Ашмянскі раён). Пачата яна была ў 1945-м і закончана праз восем гадоў, а перадалі яе ў Лідскі дзіцячы дом у 1946 годзе, калі гэтая ўстанова адкрылася.

Наогул, дакументацыя захавалася з Воранаўскага, Навагрудскага, Карэліцкага, Дзятлаўскага і іншых раёнаў Гродзеншчыны. Былыя выхаванцы выходзяць на пенсію. І прыязджаюць сюды за архіўнымі паперамі. Ды і не толькі за гэтым. Дзве сястры, што згубіліся, знайшлі адна другую па такой кнізе.

Лідскі дзіцячы дом — адзіная на Беларусі ўстанова змешанага тыпу. Гэта азначае, што выхоўваюцца тут дзеці розных узростаў да 17 гадоў. Пакуль не скончаць сярэднюю школу. Раней хлопчыкі і дзяўчынкі пры дасягненні школьнага ўзросту размяркоўваліся па розных школах-інтэрнатах. А цяпер у Лідзе дбаюць пра тое, каб дзеці-родзічы не раз'ядноўваліся. І гэта станоўча ўплывае на іх выхаванне.

## Жыццё бярэ сваё

— Наведваюся часам у дзіцячыя садкі, якія знаходзяцца на ўтрыманні прадпрыемстваў, — кажа Уладзімір Уладзіміравіч, — і заўважаю, што забеспячэнне ў іх — не параўнаеш з нашым. Там на харчаванне выдаткоўваецца столькі, колькі патрэбна ў адпаведнасці з медыцынскімі нормамі. А ў нас гэта робіцца па прынцыпе — што застаецца. Мы ж бюджэтнікі...

Разумею дырэктара: на яго сумленні і плячах, што называецца, ўсё: паклапаціцца, дастаць, выбіць. Хаця спраў і без гэтага хапае. Кожны дзень ён накіроўваецца маршрутам, па якім мы сёння пайшлі разам. Зазірнулі ў спальню — чысціня і парадак. Ложкі акуратна засланыя, адчыніў дырэктар шафу — і там бялізна складзена так, быццам у дбайнай гаспадыні. А нашай "праверкі" ніхто тут не чакаў. Значыць, выхаванцы ўжо прывучаны падтрымліваць парадак у сваім доме.

— Да нас неяк прыязджалі немцы, — заўважае Уладзімір Уладзіміравіч. — Дык старэйшы з іх прапанаваў свайму сыну павучыцца парадку ў нашых дзяцей. — Калі ўжо немцы бяруць прыклад, значыць, нашы выхаванцы нечага варты.

Далей на нашым шляху была маленькая спартыўная зала, абсталяваная трэнажорамі. Яна тут ніколі не пустуе. Любяць хлопчыкі і дзяўчынкі спорт, і прыклад у гэтым падае ім сам дырэктар. Ён, як кажуць, заўзяты спартсмен. Весланнем займаецца, любіць лёгкую атлетыку. А дзяўчынкі-старшакласніцы ўваходзяць у зборную рэспублікі па міні-футболе.

На заняткі выхаванцы дзіцячага дома ходзяць пераважна ў гарадскую школу № 6. А вечары адпачынку, розныя святы праводзяць у сябе. Асабліва цікавым, па словах дырэктара, было свята святога Валянціна.

Жыць, вядома, цікавей, калі ў дзяцей ёсць надзейныя сябры. Імі з'яўляюцца супрацоўнікі Лідскага аддзялення ДАІ і абласнога Фонду бяспекі дарожнага руху. А найчасцей у выхаванцаў бывае інспектар па прапагандзе АДАІ Віктар Карэйва. Ён не толькі вучыць дзяцей бяспецы на вуліцах, але і дбае пра матэрыяльную базу ўстановы. Па яго ініцыятыве набыты і ўручаны выхаванцам тэлевізар ад абласнога фонду.

Наведаў дзіцячы дом і Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. Гэта сустрэча была нечаканай. Дзеці нават не ведалі, як сябе паводзіць перад такім высокім госцем. Ён прывёз падарункі, пацікавіўся жыццём выхаванцаў, распытаў пра цяжкасці і паабяцаў дапамагчы.

Не застаюцца дзеці без увагі і рэспубліканскага фонду бяспекі дарожнага руху. Напрыклад, летась пры яго садзеянні 35 выхаванцаў прайшлі аздараўленне ў Італіі, Швецыі і Германіі. Асабліва клапоцяцца аб нашых сіротах італьянцы. Дырэктар кажа, што яны рэгулярна тэлефануюць, цікавяцца, як здароўе іх добрых знаёмых, запрашаюць зноў у госці.

## "Я ўсім вам мама"

Калі мы з Уладзімірам Уладзіміравічам зайшлі ў пакой, дзе з дзецьмі займалася выхавальніца Іна Вінча, яны пабеглі мне насустрач. Новы, незнаёмы чалавек тут бывае не часта. Мабыць, хтосьці з іх марыць сустрэць сярод наведвальнікаў свайго родзіча.

**Больш за трыццаць гадоў свайго жыцця аддала дзіцячаму дому Валянціна Сафронаўна Шмаро. Яна кажа: "Мне гэтыя дзеці як родныя. Вось пагляджу на сваіх унукаў — туляцца да бацькоў, а гэтым няма да каго прытуліцца. І скруха за сэрца бярэ..."**

А вось з М.В.Лагезам, сацыяльным педагогам, маюць справу пераважна старшакласнікі. Яны ідуць да Мікалая Вітальевіча за парадай: якую жыццёвую дарогу выбраць? Сваіх выхаванцаў Лагеза ведае добра. Сам прайшоў Афганістан, мае баявыя ўзнагароды. Пасля службы скончыў універсітэт і прысвяціў сябе выхаванню.

Больш за трыццаць гадоў свайго жыцця аддала дзіцячаму дому Валянціна Сафронаўна Шмаро. Яна кажа: "Мне гэтыя дзеці як родныя. Вось пагляджу на сваіх унукаў — туляцца да бацькоў, а гэтым няма да каго прытуліцца. І скруха за сэрца бярэ..."

Такога ж настрою і лагапед Ала Мікалаеўна Савельева. Шмат гадоў яна адпрацавала, а не можа зразумець: як гэта блізняты могуць быць такімі рознымі? Адно дзіця, напрыклад, абсалютна здаровае, а другое — мае нейкія адхіленні ў псіхафізічным развіцці.

Не змаглі ўбачыць мы Ганну Аляксандраўну Пакроўскую — у гэты дзень у яе быў выхадны. Яна займаецца выхаваннем дзетак у дашкольных групах. А яе асабісты лёс склаўся так, што сваіх дзяцей не мае. Затое чужыя ў яе як родныя. Прыкіпела яна да іх усёй душой. А дзеці, пакрыўджаныя лёсам, асаблівыя: кожнаму хочацца ласкі. Вось і пачынаюць яны спрачацца: чыя мама Ганна Аляксандраўна? Кожны цягне да яе рукі, быццам галінкі да сонейка. А як жа ёй быць? У такім разе Пакроўская знаходзіць адзінае правільнае выйсце, каб нікога не пакрыўдзіць. Яна кажа: "Я ўсім вам мама". І наступае цішыня. Ці то ад здзіўлення, ці ад задавальнення...

## Ад гэтага парога — у кожнага свая дарога

Брацік і сястрычка Каранеўскія трапілі ў дзіцячы дом з Берастаўіцкага раёна. Андрэю было чатыры гады, а Вользе — восем. Хлопчык не мог нават хадзіць, цяжка хварэў. І гаварыў ён дрэнна. Давялося яго спачатку накіраваць у спецыяльную школу-інтэрнат.

— І ведаеце што — цуды ёсць на свеце, — у вачах дырэктара я заўважыў іскрынку радасці. — Хлопчык параўнальна нядрэнна ўжо ходзіць у спецыяльным абутку. І гаварыць пачынае лепш.

...Трымаю спіс выпускнікоў, выхаванцаў дзіцячага дома, за мінулы год. Іх было дванаццаць. І ўсе пайшлі вучыцца далей. Ларыса Мішэль паступіла на філфак Гродзенскага універсітэта. Алена Шапель падалася ў Маладзечанскі палітэхнікум. Павел Шмігера пасля заканчэння ПТВ будзе майстрам-вадзіцелем, а яго аднакашнік Сяргей Амельчанка — вадзіцелем.

Тут, мабыць, не так важна, якую адукацыю набудуць выхаванцы дзіцячага дома. Галоўнае, каб яны правільна вызначыліся ў жыцці, увайшлі ў яго з разуменнем таго, што яны павінны сябе рэалізаваць.

...Я меў размову з Іванам Іванавічам Русаком, які быў дырэктарам Лідскага дзіцячага дома на працягу 1957-1961 гадоў. Многа вады, як кажуць, з той пары ўцякло. Былыя выпускнікі лічаць яго амаль сваім бацькам, з задавальненнем прыходзяць на традыцыйныя вечары сустрэчы выпускнікоў, тэлефануюць, пішуць пісьмы. Хаця лёсы і параскідалі іх па свеце.

Міхаіл Калошын скончыў у Маскве Інстытут міжнародных адносін і застаўся працаваць у Міністэрстве замежных спраў СССР. Уладзімір Якіменка пасля юрфака працаваў пракурорам у Брэсцкай вобласці.

Адным словам, кожны з выхаванцаў Лідскага дзіцячага дома пайшоў сваёй жыццёвай дарогай. І лёсу свайму ўдзячны, што сабраў, з'яднаў у адну сям'ю... гэты дом. Не даў блытацца ды марнаваць жыццё на задворках, вывеў у людзі.

**Канстанцін СТАНКЕВІЧ.**
г.п.Воранава.

Летняя практыка

# Даследчая праца — прастора для творчасці настаўніка

***Працоўная падрыхтоўка вучняў у новых умовах застаецца адной з самых прыярытэтных задач сельскай школы. Сёння ў школах і ўстановах пазашкольнай адукацыі і выхавання налічваецца больш за дзве тысячы вучэбна-доследных дзялянак.***

НА ГУРТКОВЫХ занятках вучні пад кіраўніцтвам педагогаў і спецыялістаў сельскай гаспадаркі вывучаюць аграцэнозы, біялагічныя асаблівасці і агратэхніку вырошчвання сельскагаспадарчых культур, экалагічна абгрунтаваныя спосабы аховы раслін. Пры гэтым важнае месца займае доследная работа, якая пашырае і паглыбляе веды, развівае творчыя здольнасці вучняў.

Доследная работа з сельскагаспадарчымі культурамі праводзіцца па заданні вучоных навукова-даследчых інстытутаў агародніцтва, бульбаводства, пладаводства, земляробства і кармоў, аграхіміі і глебазнаўства, аховы раслін. Гэтым займаюцца кожная другая школа, якая мае вучэбна-вопытную дзялянку, а таксама ўсе ўстановы пазашкольнай адукацыі і выхавання эколага-натуралістычнага профілю. Заслугоўвае ўвагі работа юных вопытнікаў Слуцкага, Салігорскага, Любанскага, Мінскага раёнаў па садаводстве, актывізавалася доследная работа з палявымі культурамі ў Гродзенскай вобласці. Вопытнікі Салігорскага цэнтра юных натуралістаў, Плешчаніцкага дома дзіцячай творчасці, Магілёўскай гарадской станцыі юных натуралістаў паспяхова займаюцца агародніннымі культурамі.

Магчымасці заняткаў на вучэбна-доследнай дзялянцы бязмежныя. Тут можна праводзіць даследчую і доследную работу па любой экалагічнай тэме пачынаючы з вывучэння ўплыву фактараў асяроддзя і экалагічных законаў і заканчваючы стварэннем і вывучэннем папуляцый, біяцэнозаў і экасістэм, правядзеннем эксперыментаў па пытаннях прыкладной экалогіі.

Ва ўмовах школы можна вырошчваць новыя культуры, весці работу па размнажэнні насення перспектыўных у мясцовых умовах сартоў і гібрыдаў. І, вядома ж, доследная работа школьнікаў павінна быць арыентавана на вытворчасць экалагічна чыстай прадукцыі.

Новым, цікавым і перспектыўным напрамкам доследнай работы школьнікаў можа быць вывучэнне ўплыву на культурныя расліны рэчываў, якія вызваляюцца пры гніенні раслінных рэшткаў. Можна рэкамендаваць з гэтай мэтай спецыяльны дробнадзялянкавы дослед на тэму "Уплыў раслінных рэшткаў календулы, захаваных у глебе, на ўсходжасць, рост, развіццё і ўраджай агародніны (палявых культур)". Вядома, што раслінныя рэшткі календулы ўтрымліваюць рэчывы, якія замаруджваюць развіццё шкодных мікраарганізмаў, што маюцца ў глебе, і тым самым ачышчаюць яе. Аналагічным дзеяннем валодаюць аксамліткі (найбольшая колькасць актыўных рэчываў утрымліваецца ў кветках), гарчыца, рапс, чыстацел і інш. А настойка з дзьмухаўцоў, крываўніку, піжмы, хвашчу дзейнічае на развіццё азотафіксуючых мікробаў у гнаі. За адзін-два месяцы пад уздзеяннем гэтага раствору свежы гной становіцца прыдатным для раслін.

За апошнія гады мноства раслін, у тым ліку дзікарослых, рэкамендаваных для выкарыстання ў сельскай гаспадарцы, сталі аб'ектамі цікавасці аматараў прыроды. Сярод іх амарант, рапс, казлятнік, бружмель харчовы і мноства іншых. Варта высветліць прыстасаванасць іх да мясцовых умоў, заняцца распаўсюджаннем, а ў многіх выпадках і ўкараненнем у мясцовую флору. Часцей за ўсё ў школе займаюцца інтрадукцыяй раслін, г.зн. перанясеннем у тую ці іншую мясцовасць тых з іх, якія раней тут не раслі. З гэтага пункту гледжання асаблівую цікавасць уяўляе шэраг палявых, агародніных, пладова-ягадных культур: яравое жыта; трыцікале; вічна, ці спаржавая фасоль; фенхель; дайкон, ці японская рэдзька; салатная рэпа какабу; ёшта і інш.

Экасістэма вучэбна-доследнай дзялянкі і працэсы, што адбываюцца ў ёй, залежаць цалкам ад чалавека, яго экалагічна граматнага падыходу. Для знішчэння "шкоднікаў" выкарыстоўваюцца ядахімікаты, небяспечныя для здароўя і навакольнага асяроддзя. Акрамя таго, не ўлічваецца, што "харчовыя канкурэнты" таксама патрэбны ў экасістэме, трэба толькі рэгуляваць іх колькасць. Празмернае ўнясенне мінеральных і арганічных угнаенняў, нават гною, прыводзіць да назапашвання ў культурных раслінах нітратаў, шкодных для здароўя, пагаршае якасць расліннай прадукцыі, а ў зонах знаходжання прыродных водных крыніц — да іх забруджання.

Але зніжэнне ўзроўню ўжывання хімічных сродкаў у земляробстве ці іх выключэнне, зразумела ж, можа адбіцца на ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур. Каб гэтага не адбылося, трэба шукаць альтэрнатыўныя шляхі павышэння ўраджайнасці экалагічна чыстай прадукцыі. Гэтаму спрыяе ўвядзенне навукова абгрунтаваных севазваротаў, выкарыстанне біялагічных метадаў абароны сельскагаспадарчых культур, вырошчванне гатункаў, устойлівых да розных стрэсавых сітуацый, шкоднікаў, хвароб і інш.

Адным са шляхоў зніжэння нагрузкі сродкаў хімізацыі на прыроду з'яўляецца севазварот, які адпавядае канкрэтным глеба-ва-кліматычным умовам. Таму пры планіроўцы вучэбна-доследнай дзялянкі неабходна правільна выбраць рацыянальны экалагічны севазварот у аддзелах палявых і агародніных культур. Важнай з'яўляецца біялагічная азотафіксацыя з дапамогай зернебабовых культур і траў, пры якой у глебе назапашваецца азот, а прадукцыя атрымліваецца без лішніх нітратаў.

Якой жа павінна быць сёння стратэгія аховы раслін на вучэбна-доследных дзялянках?

Замест былой стратэгіі знішчэння шкоднікаў прыходзіць іншая — зніжэнне іх колькасці да гаспадарча-неадчувальнага ўзроўню. І лепшы шлях да гэтага — біялагічны метад аховы, тым больш што прадукцыя, якая вырошчваецца на вучэбна-доследных дзялянках школ, ідзе ў школьныя сталовыя. Гэты метад заснаваны на выкарыстанні ў барацьбе са шкоднікамі і хваробамі раслін іх прыродных ворагаў — паразітычных і драпежных насякомых (энтамафагаў) і антаганістычных мікраарганізмаў. На палях і ў садах нашай краіны жыве вялікая колькасць (каля 300 відаў) энтамафагаў. Найбольш распаўсюджаныя сярод іх: божыя кароўкі, мухісірфіды, драпежныя жужалі, апантэлес, алеахара. Для захавання прыродных энтамафагаў неабходна ствараць умовы, спрыяльныя для іх жыццядзейнасці. Для гэтага рэкамендуецца ў міжраддзі саду ці побач з пасевамі, якія ахоўваюцца, высяваць у некалькі тэрмінаў нектараносы (гарчыцу, кроп, кінзу, крэс-салату, люцэрну, грэчку), высаджваць насеннікі пятрушкі, сельдэрэю, морквы, цыбулі і іншых культур, якія спрыяюць прыцягненню і збіранню энтамафагаў.

У павелічэнні ўраджайнасці і павышэнні якасці сельскагаспадарчых культур важнае месца адводзіцца прыёмам агратэхнікі, якія даюць магчымасць максімальна выкарыстоўваць генетычныя магчымасці сартоў, выпрацаваць спосаб барацьбы са шкоднікамі і хваробамі. Напрыклад, пры планаванні саду трэба памятаць, што грушы лепш пасадзіць далей ад яблынь. У іх агульныя шкоднікі і хваробы.

Нельга саджаць побач маліну і суніцы. Сунічна-малінавы даўганосік, пашкодзіўшы бутоны суніц, пераходзіць на маліну. Парэчкавая шкляніца можа пашкодзіць адначасова чорныя і чырвоныя парэчкі, а таксама агрэст. Побач з суніцамі непажадана саджаць астры, пятунію, мацыёлу (ляўконію). На тых і другіх добра ўжываецца небяспечны шкоднік — празрысты клешч.

Неабходна разнесці пасадкі парэчкі, агрэсту, флёксаў. На апошніх часта назіраецца бурнае развіццё мучністай расы, якая можа пашкодзіць парэчкі і агрэст.

Пры выбары пасадачнага і пасяўнога матэрыялу асаблівую ўвагу трэба надаваць раянаваным гатункам. З іх перавага аддаецца не толькі ўраджайным, але і ўстойлівым да розных хвароб і шкоднікаў гатункам, найбольш марозаўстойлівым (пладовыя культуры). Вядома, што нават крыху падмёрзлыя пладовыя дрэвы і хмызнякі хварэюць і цярпяць ад шкоднікаў у большай ступені, чым тыя, што добра перазімавалі.

Доследная работа на вучэбна-доследных дзялянках станоўча ўплывае на выхаванне вучняў, фарміруе ў іх экалагічную культуру, навыкі працоўнай дзейнасці. Развіццё цікавасці ў вучняў да даследчыцкай і доследнай работы залежыць ад тэматыкі і якасці яе арганізацыі. Такая праца павінна адпавядаць зместу навучальнай праграмы, улічваць узроставыя асаблівасці і схільнасці вучняў, мець практычную значнасць. Доследная дзейнасць, пастаўленая на навуковую аснову, духоўна ўзбагачае школьніка, збліжае фізічную працу з інтэлектуальнай, паскарае падрыхтоўку чалавека да працы ў сельскай гаспадарцы.

**Маргарыта ЗЯМЦОВА,**
**загадчык лабараторыі сельскагаспадарчай экалогіі Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра дзяцей і навучэнцаў.**

Праблема

# Вучоныя-эмігранты не павінны быць ізгоямі

***За перыяд з 1996 па 1999 гады агульная колькасць вучоных і выкладчыкаў ВНУ, якія эмігрыравалі з краіны, склала 279 чалавек (з іх — 25 дактароў і 136 кандыдатаў навук). У сярэднім штогод эмігрыравала ці заставалася за мяжой каля 70 чалавек (з іх 6 дактароў, 34 кандыдаты і 30 работнікаў без вучонай ступені). Гэта можна расцэньваць як сведчанне актуальнасці праблемы "ўцечкі мазгоў" з нашай краіны.***

Сёння навукоўцы набылі недаступную ім раней магчымасць — свабоду выбару, у якой краіне жыць. Жалезная заслона звалілася, і высокакваліфікаваныя спецыялісты пачалі ад'язджаць у краіны, дзе лепш жывецца і працуецца. Тое, што мы бачым сёння, гэта толькі пачатак працэсу, маштабы якога ў будучым стануць яшчэ больш уражальнымі. Урадам нашай краіны робіцца захады для таго, каб знайсці цывілізаваныя шляхі і спосабы дзяржаўнага рэгулявання працэсаў інтэлектуальнай міграцыі. У верасні 1999 года пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у сістэме НАН Беларусі быў створаны Цэнтр маніторынгу міграцыі навуковых і навукова-педагагічных кадраў як структурнае падраздзяленне Інстытута сацыялогіі. Кіруе Цэнтрам кандыдат філасофскіх навук М.І.Арцюхін. З ім наша гутарка.

**— Міхаіл Іванавіч, у даперабудовачны час мы часта наракалі на так званую "жалезную заслону", якая закрывала нашу "адну шостую" частку планеты ад кантактаў з краінамі з чужой для нас ідэалогіяй. Тое, што сёння ёсць канстытуцыйныя, прававыя асновы для працы за мяжой, эміграцыі і гэтак далей, стала не толькі прыкметай дэмакратызацыі, але і прычынай страты працаздольнай і, самае галоўнае, ініцыятыўнай, разумнай і адукаванай часткі нашага грамадства. У дадзеным выпадку мы з вамі гаворым пра інтэлектуальную міграцыю. Можна сказаць, што "жалезная заслона" трансфармавалася для дзяржавы ў "залатыя страты" навуковай эліты?**

— Зыходзячы з таго, што матывацыя працы за мяжой ці эміграцыі мае доўгачасовы характар, таму што высокі ўзровень замежных навуковых цэнтраў і ўвогуле ўзровень жыцця заходніх краін для Беларусі з'яўляецца далёкай перспектывай, можна прагназаваць з высокай доляй верагоднасці, што знешняя інтэлектуальная міграцыя будзе для нас перманентным працэсам. Пакуль яна носіць стыхійны характар, але з цягам часу набудзе від класічнай знешняй працоўнай міграцыі, якая мае аднабаковую накіраванасць. Прычым у канкрэтных эканамічных умовах Беларусі асновай знешняй інтэлектуальнай міграцыі ўсё больш становяцца маладыя навуковыя работнікі, аспіранты і студэнты. Гэтая тэндэнцыя складваецца таму, што ў апошні час фарміраванне патэнцыяльнай навуковай эліты адбываецца пераважна за мяжой. Акрамя таго, змяняюцца міграцыйныя паводзіны і ўстаноўкі прадстаўнікоў маладой навуковай эліты, фарміруецца новы тып ментальнасці. І калі трансфармацыя беларускай навукі і фарміраванне адэкватнага дзяржаўнага рэгулявання знешняй інтэлектуальнай міграцыі будуць адставаць ад патрабаванняў жыцця, то высокая верагоднасць таго, што ў будучым краіна можа страціць значную частку навуковай эліты.

**— Хто ад'язджае і чаму?**

— Міграцыйная статыстыка і даследаванні Цэнтра паказваюць, што едуць найбольш энергічныя і працаздольныя, у росквіце сіл людзі. Больш за ўсё ад'язджае фізікаў, потым ідуць матэматыкі і праграмісты, затым — біёлагі. Тым самым становіцца відавочным, што асноўнымі пастаўшчыкамі вучоных-эмігрантаў з'яўляюцца тэарэтычная фізіка, малекулярная біялогія — гэта значыць тыя навуковыя дысцыпліны, дзе нескладана адрозніць сапраўдныя веды ад памылковых ідэй і аб'ектыўна ацаніць магчымасці вучонага. Значна меншы попыт на прадстаўнікоў гуманітарных навук.

Галоўныя прычыны, якія падахвочваюць вучоных да выезду за мяжу, — жабрацкае існаванне, немагчымасць нармальна займацца навукай. Дзеля гэтага вучоныя і едуць у іншыя краіны, дзе інтэлектуальная праца добра аплачваецца, мае прэстыж, дзе створаны сучасныя ўмовы для навуковай дзейнасці.

**— Добра, чалавек вырашыў паехаць. Як ён гэта робіць?**

— Навуказнаўцы вылучаюць некалькі стратэгій рэальнай і патэнцыяльнай "уцечкі мазгоў". Папершае, гэта стратэгія асабістага запрашэння. Яна характэрная для вышэйшага кола навуковай эліты, вядомых вучоных, працы якіх добра ведаюць за мяжой. За такімі навукоўцамі "палююць", іх запрашаюць працаваць у замежных даследчых цэнтрах і прэстыжных універсітэтах. Але яна зусім не характэрная для Беларусі.

У нас набольш пашырана стратэгія "закідвання сеткі". Вучоныя самі шукаюць месца працы і самі сябе прапануюць: рассылаюць заяўкі на гранты, прапановы сваіх паслуг у розныя навукова-даследчыя цэнтры. Чым шырэйшая гэтая "сетка", тым вышэйшая верагоднасць поспеху. Прычым найбольшыя шанцы маюць тыя вучоныя, якім даступна адпаведная інармацыя і якія змаглі пераадолець моўны бар'ер.

Яшчэ адну распаўсюджаную ў нас стратэгію "ўцечкі мазгоў" можна назваць "галавой у вір". Вучоныя едуць, не маючы ні кантактаў, ні прапаноў, ні замежных сяброў ці сваякоў, ні наогул якіх-небудзь пэўных перспектыў. У такіх выпадках дамінуюць не пазітыўныя, а негатыўныя матывы ад'езду: не прыехаць "туды", а паехаць "адсюль". Разважанні, якія звычайна спадарожнічаюць такім матывам, зводзяцца да таго, што "як бы дрэнна мне там ні было, тут мне як вучонаму будзе яшчэ горш". Патрэбна адзначыць дастатковую рацыянальнасць такіх разважанняў.

**— Тады як нам усё-такі ставіцца да "ўцечкі розумаў"?**

— У нас такая з'ява да гэтага часу разглядаецца як выключна негатыўная, якая наносіць вялікія і непапраўныя страты нацыянальнай навуцы і грамадству ўвогуле. Сапраўды, ад "уцечкі розумаў" наша навука пакуль прайграе, затое, як правіла, выйграюць асобы — тыя, хто ад'язджае, і сусветная навука, якая ўзбагачаецца яркімі розумамі. Бо навука інтэрнацыянальная, і тое, што на адным полюсе выглядае стратай розумаў, на другім становіцца іх набыццём. Патрэбна таксама адзначыць, што стэрэатып успрыняцця "ўцечкі розумаў" склаўся ў нас на фоне таталітарнага ідэалагізаванага грамадства, якое надавала гэтаму працэсу пачварныя формы. Вучоны, які ад'язджаў, разглядаўся як "адрэзаны кусок", ставіўся ў становішча ізгоя. З гэтага пункту гледжання "ўцечка розумаў" сапраўды з'яўлялася для нас стратай.

Аднак ці такі ўжо разбуральны гэты працэс для інтэлектуальных рэсурсаў сярэднеразвітай краіны, якой з'яўляецца Беларусь? Успомнім, што "ўцечка мазгоў" не з'яўляецца толькі беларускай з'явай. Пасля другой сусветнай вайны назіраўся інтэнсіўны адток інтэлектуальнай эліты з Заходняй Еўропы ў ЗША, прычым самым актыўным донарам выступала такая развітая краіна як Англія, удзельная вага якой у агульнай плыні вучоных-эмігрантаў у ЗША у той перыяд складаў каля 20 працэнтаў. Затым надышла чарга краін Паўднёва-Усходняй Азіі: Японіі, Кітая, Індыі. Усе гэтыя краіны спачатку былі сур'ёзна ўстрывожаны "ўцечкай", разглядалі як незаменную страту, аднак потым зразумелі, што не столькі страчваюць, колькі набываюць ад гэтага працэсу, які зусім нечакана раскрыў і свае пазітыўныя бакі. Вучоныя, якія ад'язджаюць за мяжу, галоўным чынам у ЗША, знаходзяць там для сваёй нацыянальнай навукі новыя крыніцы фінансавання, арганізоўваюць інтэнсіўны ўзаемаабмен ідэямі.

Традыцыйная міграцыйная палітыка, якую мы атрымалі з часоў савецкай эпохі, добра вядомая: "не пускаць". Такая палітыка праводзілася і іншымі краінамі былога сацлагера. Напрыклад, у Кітаі існаваў свайго роду "інтэлектуальны аброк": малады спецыяліст пасля заканчэння ВНУ павінен быў пяць гадоў дапрацаваць у сваёй краіне і толькі потым атрымліваў права паехаць за мяжу. Гэтая практыка, як і іншыя формы прымусовага ўтрымання вучоных, у хуткім часе паказала сваю неэфектыўнасць і была адменена.

**— Што ж прапануецца ўзамен прымусовага ўтрымання?**

— Вопыт шэрагу дзяржаў, у якіх раней адбывалася шырокамаштабная міграцыя інтэлектуалаў і якія выпрацавалі адпаведныя эфектыўна дзеючыя рэгулятыўныя механізмы, паказвае, што існуе магчымасць у пэўных межах уздзейнічаць на працэс знешняй інтэлектуальнай міграцыі і істотна зменшыць яе адмоўныя наступствы.

Але не перашкаджаць "уцечцы мазгоў" мала, трэба навучыцца атрымліваць усю патэнцыяльную карысць з гэтага працэсу, не страчваць, а тым больш не выракацца вучоных, якія з'ехалі, а быць гатовымі прыняць усё тое, што яны гатовы даць нашай навуцы. А даць яны могуць многае, важна толькі не пазбавіць іх гэтага жадання. Галоўнае — стварыць такую інфраструктуру і ідэалогію нашай навукі, у якой вучоныя-эмігранты не былі б ізгоямі.

У гэтым пытанні нашай навуцы будзе чаму павучыцца ў спартыўных арганізацый і клубаў, якія навучыліся атрымліваць немалы матэрыяльны прыбытак з ад'езду спартсменаў за мяжу. Словам, "уцечка мазгоў" не толькі не ўяўляе катастрофы, але, наадварот, дае дадатковыя магчымасці. Трэба толькі навучыцца гэтыя магчымасці выкарыстоўваць. Калі мы гэтаму навучымся — "уцечка мазгоў" будзе не стратай розумаў, а іх выгадным укладам.

**— Міхаіл Іванавіч, калі мы навучымся выкарыстоўваць гэтыя схаваныя магчымасці — гэта пытанне часу. А ці магчыма цяпер рэпатрыяцыя беларускіх вучоных?**

— Можна гаварыць пра два віды вяртання: фізічнае вяртанне, калі вучоны вяртаецца ў краіну, з якой паехаў, і духоўнае вяртанне, калі вучоны працягвае жыць за мяжой, але аднаўляе сувязі з нашай навукай. Пакуль Цэнтрам не зарэгістравана ніводнага выпадку вяртання вядомага беларускага вучонага: умовы ў нашай краіне яшчэ надта адрозніваюцца і па ўзроўню жыцця і па яго якасці ад, скажам, амерыканскага ці заходнееўрапейскага. Але духоўнае вяртанне — аднаўленне чалавечых і навуковых сувязяў — назіраецца. Адзначым хаця б прапанову ізраільскіх вучоных, былых нашых навуковых работнікаў, аб стварэнні ў Ізраілі замежнага філіяла акадэмічнага інстытута ці лабараторыі. Аднак гэты працэс ідзе няпроста. Перашкаджае многае, у тым ліку двухбаковыя стэрэатыпы, якія ўзыходзяць каранямі да часоў халоднай вайны. У гэтым накірунку мы робім першыя крокі па наладжванні кантактаў з тымі вучонымі, якія жывуць і працуюць за мяжой.

**Гутарыў Уладзімір БЯЛЯЦКІ.**

Скажу добрае слова

# Сельская настаўніца

***Што сёння ў вёсцы настаўнік, калі, акрамя яго, яшчэ добры дзесятак прадстаўнікоў іншых прафесій маюць у кішэні дыпломы ВНУ?***

***І ўсё ж "сеяць разумнае, добрае, вечнае" закліка</br>ны менавіта яны — сціплыя працаўнікі на ніве народнай асветы. І ёсць людзі, у характары якіх добразычлівыя асветніцкія якасці як бы закладзены ад нараджэння Ўсявышнім.***

***Такім чалавекам з'яўляецца і Марыя Генрыхаўна Кіслая, настаўніца Латыгальскай сярэдняй школы Вілейскага раёна.***

Пасля заканчэння Даўгінаўскай школы ў 1964 годзе Марыя Генрыхаўна, выдатніца і актывістка грамадскага жыцця, была накіравана працаваць настаўніцай пачатковых класаў у Латыгаль і адразу праявіла сябе як добрасумленны работнік з высокім пачуццём адказнасці.

З цягам часу маладая настаўніца паступае стацыянарна на вучобу ў Мінскі педінстытут на хіміка-біялагічны факультэт. Пасля яго заканчэння вяртаецца ў Латыгальскую школу. Выкладае не толькі прадметы свайго профілю, але і выконвае вялікую грамадскую работу, шмат гадоў узначальвае прафсаюзную арганізацыю. Ініцыятыўная і настойлівая маладая настаўніца выдатна спраўляецца з абавязкамі, дабіваецца глыбокіх ведаў у вучняў па сваіх прадметах. Яе вучні часта выходзяць пераможцамі на раённых алімпіядах школьнікаў. У пачатку васьмідзесятых гадоў адзін з іх неаднаразова становіцца пераможцам абласных і рэспубліканскіх алімпіяд. У 1982 годзе на ўсесаюзнай алімпіядзе хімікаў у Таліне ён атрымаў спецыяльны прыз лепшага сельскага школьніка і быў узнагароджаны граматай усесаюзнага Мендзялееўскага таварыства. Такой жа граматай тады была адзначана праца Марыі Генрыхаўны.

Яе поспехі на педагагічнай ніве не выклікаюць сумнення. Можна шмат гаварыць пра метады і формы яе працы, пра высокае педагагічнае майстэрства. Але добра выхаваць маладога чалавека значна цяжэй, чым даць яму трывалыя веды па асобных прадметах. Марыя Генрыхаўна на працягу ўсёй сваёй работы дабівалася высокіх паказчыкаў у выхаванні падрастаючага пакалення. Яе выпускнікі вылучаюцца высокай культурай паводзін, ветлівасцю, сумленнасцю, павагай да старэйшых, добразычлівымі адносінамі паміж сабой, дабрынёй і спачуваннем да іншых. Гэта вынікі шматгадовай працы, якая патрабуе высокай цярплівасці, душэўнай цеплыні, вялікай любові да дзяцей і разумнай патрабавальнасці.

Прыярытэты ў яе рабоце — агульначалавечыя маральныя вартасці. Яны дазваляюць на ўласным прыкладзе выхоўваць у школьнікаў тое, што так патрэбна ў далейшым самастойным жыцці, асабліва сямейным.

Даводзіцца здзіўляцца, адкуль у гэтай жанчыны хапае сіл для выканання ўсёй работы ў школе і дома. Кожны дзень, падымаючыся ў 5-6 гадзін раніцы, яна паспявае дагледзець жывёліну, падрыхтаваць сняданне для сям'і, сабраць дзяцей у школу, накарміць сваю бездапаможную маці, якой зараз больш за дзевяноста гадоў, самой сабрацца і ў 8 гадзін 30 хвілін быць на ўроку. А пасля ўрокаў усё паўтараецца ў такім жа напружаным рытме. І гэтак дзень за днём, год за годам некалькі дзесяцігоддзяў, без курортаў, без дамоў адпачынку, без турыстычных паездак. А ў час вакацый даводзіцца яшчэ больш фізічна працаваць. Гэта, без усякага сумнення, не меншы подзвіг, чым "затрымаць каня на скаку". Пры такім высокім фізічным напружанні Марыя Генрыхаўна сумела стварыць і падтрымліваць на працягу дзесяцігоддзяў цёплы добразычлівы сямейны мікраклімат, выхаваць сумленных, працавітых і добрых сына і дачку. Яна не спасавала перад цяжкасцямі ў жыцці і застаецца аптымістычнай і жыццярадаснай жанчынай. Марыя Генрыхаўна не толькі любячая дачка і жонка, але і вельмі любімая маці, бабуля, свякроў і цешча. Добразычлівыя, цёплыя сямейныя адносіны ствараюць усе неабходныя ўмовы для паспяховага выхавання дзяцей. А тыя, у сваю чаргу, верыцца, будуць працягваць гэтыя добрыя традыцыі ў сваіх сем'ях. Стварыць шчаслівую сям'ю і выхаваць добрых дзяцей — гэта цяжкая штодзённая праца. Праца не толькі фізічная, але і духоўная.

Цяжка зараз прадбачыць, як будзе грамадства ўмацоўваць свае "пярвічныя ячэйкі", але мне думаецца, што першы крок павінен быць зроблены пры правядзенні рэформы агульнаадукацыйнай школы. Трэба карэнным чынам змяніць выхаваўчую работу, накіраваць яе ў рэчышча агульначалавечай маралі, так неабходнай для стварэння моцнай сям'і. Неабходна падняць прэстыж работы настаўнікаў, вярнуць ім павагу, якую яны калісьці мелі.

**Сцяфан ПЛАВІНСКІ.**

Каля сарака вучняў з Рэчыцы, як толькі закончылі вучобу, паехалі на чарнобыльскіх пуцёўках з забруджанага радыенуклідамі Чэрыкаўскага раёна на месяц у летнік "Надзея XXI стагоддзя", што ў Вілейскім раёне.

НА ЗДЫМКАХ: на "выдатна" скончыла першы клас і цяпер з ахвотай адпачне Вераніка Белахонава; з дзецьмі едзе іх настаўніца матэматыкі Людміла Васільеўна Стражнікава.

**Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.**

